Народная Воля
http://www.nv-online.info
26 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.

**ВІНШУЕМ!**

## Беларускаму «Званару» апладзіравалі ў Славакіі

*Дакументальны фільм рэжысёра Кацярыны Махавай “Званар” атрымаў Гран-пры на XVIII Міжнародным фестывалі рэгіянальных тэлекампаній у славацкім горадзе Кошыцэ.*

Стужка распавядае аб традыцыях царкоўнага звону ў Беларусі. Герой карціны — званар **Сцяпан Ярманюк** з вёскі Дарапеевічы Маларыцкага раёна. Ён пачаў званіць у 10 гадоў і працягвае займацца гэтым сёння, у 80-гадовым узросце.

**АНОНС**

## Хто стане найлепшым перакладчыкам?

*Абвяшчэнне і ўзнагароджванне лаўрэатаў прэміі часопіса перакладной літаратуры “ПрайдзіСвет” за 2011 год пройдзе заўтра, 27 чэрвеня, у кнігарні “ЛогвінаЎ”.*

Акрамя ўганаравання найлепшых перакладчыкаў мастацкай літаратуры на беларускую мову аматары літаратуры пачуюць добрую замежную прозу, паэзію і драму ў выканні саміх перакладчыкаў.

У імпрэзе возьмуць удзел наміnанты **Сяргей Балахонаў, Альгерд Бахарэвіч, Алеся Башарымава, Марыя Мартысевіч, Ігар Скрыпка, Марына Шода, Анка Упала, сябры журы Марына Казлоўская, Барыс Пятровіч, Аляксандр Фядута і Андрэй Хадановіч.**

Сёлета адборам найлепшых перакладных твораў займалася прафесійнае журы, у якое ўвайшлі перакладчык і выкладчык **Марына Казлоўская**, перакладчык і сябра рады часопіса “ПрайдзіСвет” **Кацярына Мацiеўская,** пісьменнік, рэдактар часопіса “Дзеяслоў”, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч**, перакладчык і выкладчык **Сяргей Сматрычэнка**, кандыдат філалагічных навук і літаратуразнаўца **Аляксандр Фядута,** перакладчык і сябра рады часопіса “ПрайдзіСвет” **Ганна Янкута.**

**Аліна ВЕТРАВА.**

**ЗАКУЛИСЬЕ**

# Хью Лори обыскали прямо перед зрителями

*На прошлой неделе в Минске побывал доктор Хаус. К сожалению, после концерта известного артиста* ***Хью Лори*** *многие сайты сообщили лишь официальные подробности: мол, вышел на сцену, спел то-то и то-то. А всегда ведь интересны закулисные детали: как себя вел, приставали ли поклонницы, что пил, ходит с охраной или без?*

*На концерте Хью Лори побывала журналистка* ***Янина Мельникова****.*



— Не знаю, начинает ли так Хью Лори все свои концерты, но, прежде чем сказать всем на ломаном русском “Добрый вечер” (уверена, в Киеве ему подскажут фразу на украинском), Лори расставил ноги и поднял руки вверх, в то время как его прямо перед зрителями тщательно обыскал здоровенный черный детина, — *поделилась впечатлениями Яна на своей страничке в социальной сети “Фейсбук”.* — Для белорусов картинка выглядела явно символично. Впрочем, к черту символы, когда всю сцену по периметру, а также все проходы контролировали не менее здоровенные белорусские амбалы, которые не подпускали поклонников таланта британского актера и певца к нему на пушечный выстрел. Ровно один (!) букет принял Лори лично в руки от девушки, которая смело и, как оказалось позже, весьма дальновидно выкрикнула из зала свой вопрос: *“Can you take flowers from me, Hugh?” (Можете ли вы принять цветы от меня, Хью?)* И он, конечно, ответил: *“Yes”.* Но даже когда девушка почти взлетела по ступенькам на сцену, у нее на пути встал охранник. На миг показалось, что он, как галантный кавалер, подал женщине руку, чтобы та не оступилась. На деле же детина стал мягко так и настойчиво “спускать” ее всем своим весом по ступенькам вниз. Ситуацию разрядил сам Лори, подоспевший за своим букетом. Больше он таких “промашек” не допускал. К краю сцены не подходил, на поклонников, толпящихся у выходов в конце выступления, казалось, внимания не обращал. Цветы на край сцены клали все те же детинушки, предварительно отобрав их у поклонников... Отчего-то было мучительно неловко за собственную родину, которая не столько заботится о высоком госте, сколько в очередной раз демонстрирует, кто в доме хозяин...

А концерт был отличный. Лори жег от первой до последней минуты. Демонстративно попивал из стакана не то яблочный сок, не то виски, бесконечно подшучивал над аудиторией и собой, повторял *“спасибо”* вперемешку с *thank you*, переходил от рояля к гитаре, демонстрируя свою разносторонне одаренную натуру, и, конечно же, пел... Много, долго, вдохновенно. Играл рок-н-ролл, блюз, джаз, в отличие от музыкантов своей группы не пропуская ни одной композиции. Он оказался на редкость искренним и честным исполнителем, в котором врожденная интеллигентность чудесным образом переплелась с дурачеством и даже легкой безбашенностью. В общем, доктор зажег!

**ТЕХНОЛОГИИ**

## В интернет-кафе можно будет прийти без паспорта?

*Минсвязи Беларуси предлагает отменить паспортный контроль в интернет-кафе и планирует альтернативные варианты идентификации пользователей.*

Чиновники вынесли соответствующий проект постановления на общественное обсуждение. Если решение будет принято, то интернет-кафе и компьютерные клубы смогут использовать для идентификации пользователей более современные способы. Речь идет об использовании аппаратно-программных средств — видеофиксации, SMS и прочего.

Сейчас посидеть в интернет-кафе без документа, удостоверяющего личность, никак нельзя.

**ЗА КУБАЧКАМ КАВЫ З МАРЫНАЙ КОКТЫШ**



*Анастасія ПАЛАЖАНКА:*

# Нестандартная гісторыя кахання



*Яна ведае, як пазбавіцца ад лішніх кілаграмаў максімум за пару тыдняў. Аднак такой дыеты не пажадаеш і ворагу, бо яе галоўная спецыя — стрэс. Калі ўвесь час на нервах, нават смачная ежа не лезе ў рот. Праўда, мы сустрэліся не для таго, каб абмеркаваць дыеты. Наста Палажанка хацела праз газету перадаць прывітанне ў калонію Зміцеру Дашкевічу і настройвалася на сур’ёзную гутарку. Але неяк сама сабой атрымалася шчырая размова пра каханне, якая расцягнулая на некалькі гадзін... Дарэчы, Наста вельмі рана зразумела пра адносіны мужчыны і жанчыны тое, чаго некаторыя не могуць уцяміць да глыбокай старасці.*

### Пацалункі на паперы

**— Распавядзіце, калі ласка, як вы пазнаёміліся са Зміцерам Дашкевічам?**

— Калі прыйшла ў “Малады фронт” (зарэгістраваны ў Чэхіі), ён якраз адбываў адміністрацыйнае пакаранне. Я разам з усімі сустракала яго з Акрэсціна. Дарэчы, як тады сустракалі зняволеных і цяпер — канешне, непараўнальныя рэчы. Ля сцен ізалятара стаялі дзясяткі людзей з кветкамі і шампанскім, ледзь не канцэрт ладзілі! А сёння добра, калі прыйдзе некалькі паплечнікаў. Таму раней і не так часта суткамі каралі, я перакананa ў гэтым.

Зміцер тады да кожнага падышоў, павітаўся, сказаў некалькі словаў. І я здзівілася, што такія прыемныя людзі трапляюць за краты... Такой была наша першая сустрэча.

**— Пра каханне тады, ясная справа, і думкі не было?**

— Так. Мы сябравалі, працавалі разам. У нас дастаткова вялікая розніца ва ўзросце — дзевяць год, але пры гэтым я фактычна заўжды была побач.

**— А калі зразумелі, што вашы пачуцці да яго больш чым сяброўскія?**

— Разуменне прыйшло з часам. Калі Дашкевіча першы раз адправілі ў калонію на паўтара года, я адчула, што гэтага чалавека мне вельмі моцна не хапае побач. Гэта быў першы знак, што паплечніцкае стаўленне скончылася. Але ў 2008 годзе ў мяне на першым плане была вучоба, “Малады фронт”... А пасля апошняга зняволення, калі ўжо і я трапіла за краты, усё стала зразумела. Турма расставіла кропкі над “і”.

Дарэчы, мая першая размова з апаратыўнікамі ў СІЗА КДБ пачалася менавіта з Дашкевіча. Яны сказалі, што наведвалі Зміцера ў Жодзінскім ізалятары. Распавядалі і глядзелі, як я рэагую...

І мне, і яму тады было няпроста. Зміцер вельмі перажываў. Ягоныя лісты не даходзілі, і ён пачаў пісаць мне дахаты, спадзеючыся, што рана ці позна я іх атрымаю. Прачытала ягоныя пасланні ў першую ноч пасля СІЗА.

**— Атрымліваецца такі рэвалюцыйна-патрыятычны раман. А як жа рамантыка і ўсё такое?**

— Так, гэта не стандартная гісторыя кахання. Проста, калі чалавек заўсёды побач, ты нават не ўсведамляеш, што ён даўно стаў часткай цябе самой.

**— Колькі разоў вы бачыліся за апошні год?**

— Толькі падчас судовага працэсу і ў красавіку мінулага года, калі было развітанне з ягонай маці. Нам не далі ніводнага спаткання — ні кароткага, ні доўгага. Хаця па законе можна. Відаць, баяліся нечага... Я магу з ім толькі ліставацца.

**— Перадаяце яму пацалункі губной памадай на паперы?**

— Абавязкова! А Зміцер у сваіх лістах частуе мяне цукеркамі, дасылаючы фанцікі ад салодкага, якое з’еў сам. Мне гэта прыемна. Зміцер — маё вялікае натхненне, і, нават знаходзячыся ў турме, ён дае мне сілы, клапоціцца пра мяне. Кантралюе, як я вучуся, што ў мяне са здароўем...

**— Калі б вас папрасілі трыма словамі ахарактарызаваць свайго каханага, якія б выбралі?**

— Мужны, мудры, прынцыповы. У дачыненні да мяне ён яшчэ добры і пяшчотны, але гэта ўжо больш за тры эпітэты...

### Каханне па знаках прыпынку

**— Вы збіраліся пабрацца шлюбам у калоніі. Ад каго сыходзіла прапанова?**

— Ад Зміцера, канешне. Я атрымала прапанову рукі і сэрца перад Вялікаднем. І чытала гэты ліст, седзячы ў чарзе на перадачу ў СІЗА на Валадарскага. Мы думалі, што ў нас атрымаецца абмяняцца заручальнымі пярсцёнкамі ў калоніі ў Горках, будзе доўгае спатканне. Але высветлілася, што турэмшчыкі “згубілі” пашпарт Дашкевіча.

**— І што, дагэтуль не знайшлі?**

— У мяне ёсць паперы, якія сведчаць, што пашпарт знаходзіўся ў КДБ. Але ў пракуратуры сцвярджаюць, што месцазнаходжанне пашпарта пацвердзіць не атрымалася.

**— Наста, а можа, гэта нейкі знак, што не трэба спяшацца са шлюбам?**

— Мы са Зміцерам цвёрда вырашылі. Я ўвогуле не разумею, чаму нам забаронена пажаніцца. Логіка нейкая ў чэкістаў вывернутая...

**— Не баіцеся, што, калі Дашкевіч выйдзе з-за кратаў, вы сустрэнецеся і... зразумееце, што каханне зусім не тое...**

— Гэта выключана. Я Зміцера ведаю з 14 гадоў. Разумею яго нават па тых знаках прыпынку, якія ён ставіць у сваіх лістах. Я лістуюся з ім фактычна кожны дзень. І ў мяне няма адчування, што мы доўга не бачыліся. Я дзялюся з ім думкамі, сумневамі. Хіба што пра палітыку сталі размаўляць менш.

**— З-за цэнзуры?**

— Проста няма такога жадання. Ёсць што абмяркоўваць і без гэтага.

Паўтара года за кратамі — гэта бясконцасць. Са мной на волі адбываюцца нейкія падзеі, я сустракаюся са знаёмымі, хаджу па магазінах, раблю справы. А ў яго ўсё зусім інакш...

Вельмі складана робіцца тады, калі ў нейкі асабліва цяжкі момант хочаш адчуць яго фізічна. Пачуць ягоны голас, узяць за руку, пабачыць яго. Але я ўсё роўна засынаю з ім і прачынаюся. Мы жывём агульнымі праблемамі і марамі.

**— Калі “Маладым фронтам” кіраваў Павел Севярынец, большасць дзяўчын былі ў яго закаханыя. Напэўна, сітуацыя ў нечым паўтарылася, калі яго змяніў Зміцер Дашкевіч. Як вы рэагавалі на патэнцыяльных канкурэнтак?**

— Я ведала, што час расставіць усё па сваіх месцах (*смяецца*).

**— А Зміцер вас не раўнаваў? Вы прыгожая, заўважная дзяўчына...**

— Гэтае пытанне, канешне, варта было б задаць яму...

У мяне вельмі шмат сяброў сярод мужчын, дый у “Маладым фронце” пераважна мужчынскі калектыў. Але гэта ўсё не датычна маіх пачуццяў.

**— Жыццё ёсць жыццё: людская пагалоска прыпісвала вам раманы з некаторымі іншымі палітыкамі...**

— Чаго нам толькі не спрабавалі прыпісаць!.. Але Зміцер ведае, якія ва мне адбываюцца перамены, пра што турбуюся, — я пра ўсё пішу яму ў лістах.

**— І вас не хвалюе, што іх чытае нехта яшчэ? Без цэнзуры яны да яго, відавочна, не трапляюць...**

— Мне няма чаго хаваць. Для мяне важна, каб Зміцер ведаў і разумеў, што адбываецца са мной. Не паверыце, але мы нават умудраемся сварыцца ў лістах!

**— У Зміцера складаны характар?**

— Няпросты. Я па сваёй натуры чалавек, які згладжвае куты, а Зміцер — больш радыкальны.

**— Вас гэта не напружвае?**

— Зміцер рэзкі не да людзей, а да сітуацый. Ён катэгарычны ў перакананнях, але можа спакойна прызнаваць свае памылкі. І гэта мне падабаецца.

Я разумею, што з такім моцным стрыжнем яму не вельмі проста за кратамі, бо ў турме заўжды спрабуюць зламаць чалавека, прынізіць чалавечую годнасць, каб ён заткнуўся і схаваўся ў кут. Зміцер разумее, што тут той выпадак, калі саступіш у нечым — саступіш назаўжды. Таму ён будзе стаяць з роўнай спінай, што б ні адбывалася. І мне — не буду хаваць — жудасна, што з-за гэтага ў яго могуць быць праблемы. Страшна нават падумаць, праз якія правакацыі, выпрабаванні і штучна створаныя сітуацыі яму прыходзіцца праходзіць штодня. Турма — гэта ж іншы свет.

### Праца над пачуццямі

**— Вам было страшна, калі трапілі ў “амерыканку”?**

— Страху не было. Адчувала, што рана ці позна павінна была з гэтым сустрэцца. І дзякуй Богу, бо цяпер мне прасцей зразумець погляды і словы тых, хто перажыў турму. Такое бязладдзе, якое адбываецца ў беларускіх турмах, цяжка знайсці недзе яшчэ. Некаторыя супрацоўнікі калоній — сапраўдныя бандыты, якія нічым не адрозніваюцца ад тых, хто трапіў за краты за нейкія сур’ёзныя злачынствы. А асобныя кіраўнікі калоній нават горшыя за гэтых злачынцаў. Бо ў некаторых месцах пазбаўлення волі проста адкрыта ламаюць і прыніжаюць людзей. Я думаю, што рана ці позна турэмшчыкі павінны панесці адказнасць за свае дзеянні.

**— Андрэй Саннікаў, як толькі выйшаў на волю, амаль адразу заявіў:** ***“Турма — абсалютна непатрэбны досвед, яна нічога не можа даць”.*** **Вы з ім згодная?**

— Так. І я лічу, што тыя людзі, якія не прагінаюць у турме спіны, нягледзячы на розныя выпрабаванні і правакацыі, — сапраўдныя героі.

**— Дашкевіч вітаў рашэнне Саннікава аб памілаванні. А чаму ён сам не ідзе на такі крок?**

— Зміцер казаў, што калі б яму пагражалі блізкімі людзьмі, так, як пагражалі Саннікаву, то ён не вагаўся б. Я правяла толькі два месяцы ў СІЗА КДБ і ведаю, што гэта такое. Таму хачу сказаць дзякуй Богу, што Саннікаў і іншыя выйшлі на волю. У мяне няма ніякіх прэтэнзій да пазіцыі гэтых людзей. А тыя, хто не прайшоў праз турму, на мой погляд, не мае ніякага маральнага права асуджаць.

Я вельмі спадзяюся, што выпрабаванне турмой хутка скончыцца і мы са Зміцерам забудзем, што гэта такое.

**— Напрыканцы ліпеня ў вас самой павінен скончыцца тэрмін умоўнага пакарання.** ***“Акурат 22.07 Зміцеру палагаецца доўгае спатканне з татам,*** **— заўважылі вы на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы.** ***— Там, знаходзячыся ў гэты дзень у Глыбокім пад ягонай турмою, скончыцца мой “умоўны срок”, але не скончыцца “рэальны”.*** **Што вы зразумелі пра сябе і свае пачуцці за час вымушанага расставання?**

— На мой погляд, каханне — гэта не толькі пацалункі і абдымкі. Гэта перш за ўсё рашэнне быць побач доўгія гады. Пастаянная праца над стасункамі. Калі ты інтарэсы іншага чалавека ставіш крыху вышэй за свае. Калі можаш ахвяраваць нечым дзеля каханага. Калі разумееш, што можаш фізічна згубіць чалавека, то хочаш кожную хвіліну быць побач з ім і не губляць час на пустэчу.

Мяне здзіўляе вялікая колькасць разводаў у нашай краіне. Людзі так проста кажуць, што згубілі пачуццё кахання. Я лічу, што тым, хто вырашыў скасаваць шлюб, спачатку варта ўзняць паўзу і паспрабаваць разам прайсці праз выпрабаванні. І яшчэ раз добра падумаць. Шмат залежыць ад таго, на чым будуюцца адносіны паміж мужчынам і жанчынай, з чаго яны пачынаюцца, ці ёсць паміж імі нешта вышэйшае за асабістыя інтарэсы.

### Кар’ера не абдыме і не назаве мамай

**— На вашай старонцы ў “Фэйсбуку” вісіць рамантычны малюнак, на якім цалуюцца хлопец з дзяўчынай. Збоку жанчыны надпіс:** ***“Хачу пачуць тры самыя галоўныя словы...”*** **А ў адказ —** ***“Беларусь без Лукашэнкі”.*** **Для вас на першым плане: палітыка альбо асабістае?**

— Са мной і ў СІЗА КДБ пра гэта размаўлялі. Тыя, у каго званне павышэй, часта пыталіся, што для мяне важней — сям’я альбо кар’ера. Я адказвала, што хацела бы сумяшчаць адно з другім.

Насамрэч я не бачу шчаслівай кар’еры без шчаслівай сям’і. Як кажуць, не кар’ера цябе абдыме дома, пацалуе і назаве мамай. Без утульнага сямейнага падмурка не буду адчуваць сябе моцнай у прафесійных справах. Каханне мужа, дзяцей даюць моц і натхненне развівацца, рабіць нешта далей.

Зміцер мяне вельмі стымулюе. Вось я хадзіла ў ліцэй БДУ на курсы англійскай мовы — тры разы на тыдзень па тры гадзіны! Калі б не Дашкевіч, я б, напэўна, і не вытрывала. Таму я і кажу: сям’я — гэта адзін з тых падмуркаў, на якіх ты стаіш. Без яго вельмі лёгка паслізнуцца і зваліцца.

Таму зараз самае галоўнае — дачакацца, калі гэта скончыцца. Спадзяюся, у нашым жыцці пачнецца новы перыяд.

**— Без палітыкі?**

— Нейкі час — так. Думаю, варта ўзяць паўзу, агледзецца, абдумаць усё.

**— Як думаеце, да Дашкевіча могуць прымяніць амністыю, нягледзячы на тое, што яго запісалі ў злосныя парушальнікі парадку адбыцця пакарання?**

— Мне падаецца, што па амністыі яго не вызваляць. Альбо раней, альбо пазней. Калі ўсё будзе добра, то Зміцеру засталося шэсць месяцаў.

**— Пазней — гэта як? Маеце на ўвазе, што могуць справакаваць і накінуць дадатковы тэрмін?**

— Цьфу-цьфу, але ўсё можа быць.

### Вышыванне крыжыкам

**— Наста, а якой вы бачыце сябе гадоў праз дзесяць?**

— Сур’ёзнае пытанне... Мне хочацца як мага большай вызначанасці з днём сённяшнім.

**— Вы не той чалавек, які не думае пра перспектывы і не будуе планы на будучыню.**

— У нас не такая краіна, каб далёка загадваць. Думаю, што застануся ў грамадска-палітычным полі. Бачу сябе ў праектах дабрачыннага і палітычнага кшталту.

**— Складваецца ўражанне, што Палажанка — ну проста пажыццёвая рэвалюцыянерка! А здараецца такое, што вы проста ляжыце на канапе перад тэлевізарам альбо з кнігай ці газетай (толькі не грамадска-палітычнай)?..**

— Раней я займалася музыкай, спявала — мне гэта было цікава. Я абсалютна нармальная дзяўчына, якая цікавіцца моднымі тэндэнцыямі, сочыць за тэатральнымі навінкамі, сустракаецца з сябрамі не з палітычнага сектара.

**— Няўжо такія ёсць?**

— Канешне. Дзве мае лепшыя сяброўкі не маюць ніякага дачынення да палітыкі. Прычым адна ўвогуле ёй не цікавіцца, а другая, каб лепш мяне разумець, проста арыентуецца ў прозвішчах апазіцыйных палітыкаў. І быў час, калі яны мяне вельмі раўнавалі да “Маладога фронту”.

**— Старшыня Цэнтрвыбаркама спадарыня Ярмошына лічыць, што жанчыне няма чаго рабіць у палітыцы — прынамсі, вулічнай. Няхай дома боршч варыць...**

— Я люблю гатаваць, і ў мяне добра атрымліваецца, боршч — у тым ліку.

**— А крыжыкам вышываць?**

— Яшчэ як! Я спакойна стаўлюся да побытавых рэчаў, мне падабаецца гэтым займацца. Увогуле люблю ўтульны спакой. Мы марым са Зміцерам пра нейкі загарадны домік. Я, канешне, слаба ўяўляю сябе ў градах — хіба што кветкі магу пасадзіць. А вось Зміцеру ўсё, што звязана з зямлёй, вельмі падабаецца.

Я, між іншым, з самага дзяцінства была вельмі самастойная, і мне ўжо вельмі хочацца пабыць залежнай. Але слабай жанчына можна быць толькі побач з тым мужчынам, які мацнейшы за цябе. І Зміцер у гэтым сэнсе мне вельмі падыходзіць. Проста хочацца сесці яму на шыю... Але пакуль рана расслабляцца.

### Праблемы — з’ява часовая

**— Наста, а вы ніколі не шкадавалі, што пайшлі ў палітыку? Да гэтага часу ўжо, напэўна, мелі б працоўнае месца на нейкай больш-менш паспяховай фірме. І праблем не ведалі б...**

— Гэта хутчэй палітыка ўвайшла ў маё жыццё. Але дзякуючы “Маладому фронту” я пазнаёмілася са Зміцерам, у мяне шмат сяброў, я раблю тое, што мне падабаецца, за што баліць сэрца. А праблемы — часовая з’ява, сям’я і радзіма — вечныя. Таму ніколі не шкадавала. Так, бывае складана. Але ёсць людзі, якім горш, чым мне.

**— Ваш старэйшы брат працуе праграмістам, палітыкай не цікавіцца. Не спрабуе вучыць вас розуму?**

— Мяне пераконвалі да 10-га класа. А потым і бацька, і брат зразумелі, што гэта не юнацкае захапленне. І цяпер у нас вельмі добрыя стасункі. Хаця да маёй першай крымінальнай справы дома, канешне, была бяда. А потым бацька зразумеў, што мяне лепш падтрымаць, чым ваяваць са мной.

Мой тата зведаў праз мяне нямала праблем. Яго звольнілі з працы з-за маёй дзейнасці, і праблемы са здароўем узніклі выключна з-за мяне. Я яму шмат чым абавязана... Гэта той мужчына, з якога можна браць прыклад. І я ведаю, што чалавека, які любіць мяне так моцна, як бацька, у маім жыцці больш ніколі не будзе...

**— А чым скончылася ваша гісторыя з падатковай інспекцыяй? Бацьку ж таксама правяралі ўздоўж і ўпоперак — сышліся даходы з расходамі?**

— Штрафаў не налічылі, таму што не было вялікіх расходаў. Пытанні ўзніклі ў тым ліку па маім мабільным тэлефоне, але і я не хаваю, што шмат размаўляю, — я ж дзяўчына...

**— У вас сталага заробку, як я разумею, няма?**

— Пакуль не, але ў мяне ёсць магчымасць падзарабіць, дапамагчы сям’і. Канешне, планую працаўладкоўвацца.

### Без слёз і стогнаў

**— Вядомы эканаміст Леанід Заіка некалькі месяцаў таму адзначыў, што 65 працэнтаў моладзі хацелі б пакінуць Беларусь.** ***“І атрымліваецца, што ў нас два альянсы — БРСМ і “Малады фронт”,*** **— казаў ён пра маладзёжныя арганізацыі.** ***— Яны застануцца і будуць працаваць тут, у Беларусі. Хтосьці будзе займаць крэслы і пасады, а хтосьці будзе матацца па турмах...”*** **У вас не было думкі з’ехаць?**

— Ніколі. І ў СІЗА зразумела, што калі мяне паставяць перад выбарам — турма альбо эміграцыя, то я выберу турму. Бо турма рана ці позна скончыцца, а эміграцыя — гэта, як мне падаецца, надоўга. Тут мае сябры, сям’я. Я не ўяўляю, як можна з’ехаць.

**— Вы сустракаецеся с прадстаўнікамі БРСМ?**

— Не, не запрашаюць. Але калі “Малады фронт” ладзіў некаторыя акцыі ў рэгіёнах, яны некалькі разоў прапаноўвалі далучыцца. Магчыма, гэта такі хітры піяр-ход, каб трошкі растварыць апазіцыйную актыўнасць і перацягнуць коўдру на сябе.

Я лічу БРСМ мёртвай структурай. Яны маюць велізарныя магчымасці і не выкарыстоўваюць іх. Альбо яны лайдакі і не хочуць працаваць, альбо ім проста не даюць развярнуцца. Сёння трэба не дапусціць, каб моладзь з’ехала з краіны. Трэба стварыць умовы, каб заставаліся тут. Даць перспектыву, магчымасць рэалізавацца. БРСМ гэтым не займаецца...

**— Апошнім часам шмат крытыкі дастаецца і апазіцыйным структурам, у тым ліку і “Маладому фронту”. Як ставіцеся да заўваг?**

— Калі гэта канструктыўная крытыка, калі нешта прапаноўваюць, указваюць на памылкі, падказваюць — з задавальненнем прыслухаюся. Калі гэта нешта пустое, то проста не звяртаю ўвагі альбо ўсміхаюся...

**— Раней “Малады фронт” называлі не толькі закрытай арганізацыяй, але і сектай, калектывам блізарукіх радыкалаў...**

— Тое, што нехта называе сектай, я лічу ідэйным падмуркам. Тое, што лічаць радыкалізмам, я магу назваць прынцыповасцю. На мой погляд, апошнія арышты маладафронтаўцаў сведчаць пра тое, што ўлада робіць усё магчымае, каб арганізацыя спыніла сваю дзейнасць. А нам у верасні, між іншым, будзе 15 гадоў...

Сёння ў “Малады фронт” прыходзяць новыя хлопцы і дзяўчаты. Яны нават ніколі не бачылі таго ж Дашкевіча. І ведаюць, якой хочуць бачыць краіну. Я нават сама здзіўляюся, адкуль такія людзі з’яўляюцца.

**— Цяпер сярод апазіцыі модна шукаць у сваіх шэрагах засланых казачкоў са спецслужб...**

— Мы гэтым не займаемся спецыяльна. Бо ведаем, што такія людзі будуць заўжды. І сваіх стратэгічных планаў не хаваем. Мы не парушаем закон, не займаемся тэрарыстычнай дзейнасцю. Дарэчы, у час высокіх тэхналогій нават прысутнасць чалавека не патрабуецца, каб даведацца пра нейкія ўнутраныя рэчы. Таму пэўныя меры па бяспецы мы ўсё ж прадпрымаем, але ўсеагульнай панікі не паддаемся.

**— Часта даводзіцца чуць: маўляў, ад таго, якая ў нас сёння моладзь, як яна развіваецца і чаго хоча, залежыць будучыня краіны.**

— Я ўпэўнена, што Беларусь чакае добрая будучыня. Праўда, нам усім давядзецца прайсці праз вялікія выпрабаванні. Шмат што належыць пераасэнсаваць. І нават пасля перамен будзе няпроста. Думаю, тая моладзь, якая прайшла праз Плошчу, праблем і цяжкасцяў не баіцца. Маладафронтаўцы таксама маглі б сёння піць піва па барах, забаўляцца, але яны выбралі іншы шлях. І я перакананa, што з такімі людзьмі будучыня ў Беларусі будзе!

**— Я гляджу, вы вялікая аптымістка.**

— А інакш не пражывеш!.. На мой погляд, людзі ўжо стаміліся ад стогнаў, плачу. Хочацца пазітыву. Мне таксама аптымізм часам складана даецца, але я маю надзею і перакананасць, што ўсё будзе добра...

В ГОСТЯХ У «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

# Андрей Кривонос — тренер в квадрате

*Несмотря на молодой, по тренерским меркам, возраст, Андрея Кривоноса называют одним из самых перспективных спортивных наставников и возлагают на него большие надежды по возрождению славных традиций отечественного баскетбола. Наш гость рассказал, каково это — быть в 37 лет главным тренером сразу двух гигантов белорусского баскетбола — БК “Минск-2006” и Национальной сборной и чем сейчас живет наш баскетбол.*



Во время учебы в США.

**— Конечно, трудоголикам бесполезно задавать этот вопрос. И все же: в отпуске давно были?**

— Если честно, то да. Как-то не получается. Только когда в мае “Минск-2006” снова стал чемпионом страны, я позволил себе немного расслабиться и весело отметить это в кругу хороших друзей и коллег. А затем пару дней просто отдыхал, ни о чем не думая. Очень сильно устал за сезон. Как и все спортсмены, я привык к большим физическим нагрузкам, но они не идут ни в какое сравнение с той колоссальной эмоциональной и психологической нагрузкой, которую испытываешь на тренерской работе.

**— Это когда от вас постоянно требуют высоких результатов, а в случае неудач интернет-форумы полнятся гневными словоизлияниями?**

— Критику нужно воспринимать адекватно. Но что касается форумов, то многое из того, что там появляется, я просто не воспринимаю. Одно дело, когда тебя критикует профессионал, другое — когда это делает обуреваемый эмоциями болельщик...

**— Скоро начнется подготовка Национальной сборной к участию в квалификационном турнире чемпионата Европы. Насколько реальны наши шансы на победу?**

— В этом году нам предстоит соревноваться в группе А с такими топовыми сборными, как Турция, Италия, Португалия, Чехия. К примеру, сборные Италии и Турции постоянно участвуют в чемпионатах мира, Европы, Олимпийских играх и играют на высоком уровне. Но мы ставим перед собой максимальную задачу — с 15 августа по 11 сентября только побеждать! Для этого в сборную планируем привлечь лучших игроков Беларуси — Параховского, Тростинецкого, Кудрявцева, Лашкевича, Мещерякова, Ульянко, Алексеева, Кондрусевича и других. Да, многие будут говорить, что у нас нет молодежи и что не стоит делать ставку на “стариков”. Но если молодые амбициозные игроки смогут проявить себя, то мы будем только приветствовать их.

**— К слову, это очень актуальный для белорусского баскетбола вопрос: кто заменит теперешних звезд?**

— Это, конечно, дело не одного дня. Не так просто вырастить достойную смену. Здесь многое зависит от того, как будет развиваться баскетбол на периферии, где он, к сожалению, в последнее время пришел в упадок. К примеру, мой родной Могилев всегда славился баскетболом, а сейчас его команды по ряду причин выступают не так хорошо, как хотелось бы. Сегодня нужно вкладывать деньги именно в детские спортивные школы, создавать новые базы и просторные спортивные залы, чтобы был мощный приток молодежи в баскетбол. И очень важен вопрос финансирования. От того, сколько финансов будет вложено в детские спортивные школы, напрямую зависит, какой результат мы пожнем в будущем. Будем откровенны, у детских тренеров зарплата очень невысокая. И заинтересовать молодого, перспективного тренера, особенно если у него есть семья, поехать на периферию для работы с детьми, практически невозможно. А на одном энтузиазме далеко не уедешь.

**— Белорусская баскетбольная школа в лице команды “Минск-2006” уже не первый год уверенно заявляет о себе на таких престижных турнирах, как “Еврочеллендж” и Единая лига ВТБ, а реально ли нам в будущем пробиться в Евролигу?**

— Почему бы и нет. Главное опять же в финансировании. Если мы посмотрим на те клубы, которые участвуют в этих состязаниях, то бюджеты у них раз в десять больше, чем у нас. Плюс, я считаю, и это моя основная позиция, что чем больше будет вложено денег в белорусские баскетбольные клубы, тем больше у них будет возможностей привлекать интересных игроков как из числа легионеров, так и из числа своих звезд, чтобы они были заинтересованы играть дома и не уезжали в иностранные клубы.

**— Кстати, о легионерах. Насколько они нужны белорусскому баскетболу?**

— Почему мы приглашаем легионеров? Чтобы белорусские игроки перенимали их опыт игры и учились чему-то новому. Это нормальная общемировая практика. В некоторых клубах во время подготовки к сезону меняется до 20 легионеров, зато выбирают тех, кто подходит именно этой команде.

**— А какие баскетбольные школы сейчас доминируют в мире?**

— На мой взгляд, американская, испанская, литовская и балканская. Т.е. в тех странах, где баскетбол больше, чем спорт, — они им живут. У нас тоже еще со времен СССР была своя хорошая школа, не хуже, чем у испанцев или югославов. И я не думаю, что мы утратили свой потенциал.

**— В своих интервью вы нередко критикуете болельщиков. А каким в вашем представлении должен быть настоящий фанат баскетбола?**

— Просто прийти посмотреть матч — это одно, а уметь болеть и поддерживать любимую команду — совсем другое. Многое зависит и от менталитета людей. Возьмем любую южную страну — Хорватию или Грузию. Неважно, кто играет — баскетболисты или гандболисты, зал все равно будет заполнен под завязку, и все пришедшие будут дружно болеть, потому что это у них внутри. Мы же исторически привыкли сдерживать свои эмоции. Нам нужно научиться расслабляться и отдыхать. Если говорить о спорте, то здесь не последнюю роль играет и результат команды. Посмотрите, когда на “Минск-Арене” проходит хоккей — в зале аншлаг, болельщиков захлестывают эмоции, потому что команда выступает успешно. Плюс еще в том, что в хоккее и футболе хорошо налажена работа с болельщиками, созданы фан-клубы. И мы тоже к этому стремимся.

**— Андрей Витальевич, как вы в целом оцениваете свою тренерскую карьеру?**

— А она еще только началась. Из-за травмы мне пришлось рано прервать успешную карьеру баскетболиста и стать тренером. Когда я в 2007 году закончил играть в польском “Чарни Слупск”, мне сразу поступило предложение поработать тренером с молодежным составом этого клуба. Я, не раздумывая, согласился, ведь там можно было получить бесценный опыт, как проводить тренировочный процесс, а также поучиться у других опытных тренеров. Этот год был для меня подготовительным. После чего мне предложили поработать с командой “Минск-2006”. Я долго раздумывал: стоит ли? Ведь моими подопечными станут ребята, с которыми я дружу, с которыми сам еще недавно выступал на одной площадке. И как они меня воспримут уже в качестве тренера? Но надо отдать им должное, они отнеслись ко всему с пониманием и довольно профессионально. Дружба дружбой, а работа есть работа.

**— Вы — тренер-деспот или, скорее, старший товарищ для своих игроков?**

— Все вместе. Когда проигрываешь, много слов не говорится — мы одно целое, и все переживают. Есть игра, когда, несмотря на проигрыш, получаешь какое-то удовлетворение, это когда команда бьется до последней минуты. Игра не должна быть бездарной, проигрывать нужно тоже талантливо.

**— Кроме баскетбола, какими-нибудь другими видами спорта интересуетесь?**

— У меня мечта научиться играть в гольф.

**— За работой коллег по тренерскому цеху следите?**

— Естественно. Большую симпатию вызывает, например, тренер “БАТЭ” Виктор Гончаренко, который опроверг стереотип, что только иностранные специалисты могут приводить команду к высоким достижениям.

**— Спорт — это еще и замечательный шанс увидеть мир. У вас уже сложился рейтинг любимых мест?**

— Не удивляйтесь, но на первое место я поставлю родной Могилев, куда я при первой же возможности стараюсь вырваться, чтобы повидаться с родителями. И Минск мне нравится, здесь у меня много друзей. В хорошую погоду очень люблю пройтись по центру столицы, посидеть с друзьями в уютном баре с живой музыкой. Правда, времени катастрофически не хватает.

Со стороны мамы у меня польские корни, поэтому я очень хорошо чувствую себя в Польше, где долгое время жил, выступая за местные клубы. Можно сказать, изъездил страну вдоль и поперек. Даже язык выучил.

Нравится Петербург своей странной и своеобразной атмосферой. Очень люблю море, в этом плане хороша Испания.

**— В США, на родине баскетбола, вы учились и выступали за университет Джорджа Вашингтона. Не возникало желания остаться там жить?**

— Впервые я приехал туда еще с молодежной сборной Беларуси в 1993 году. И это было потрясение — совсем другой мир, другие люди, в магазинах изобилие. Так что через три года, когда поехал туда учиться, я уже морально был к этому подготовлен. Первые полтора года были самыми тяжелыми, потому что я не говорил по-английски. Вдобавок колоссальная нагрузка. Каждый день с 7 утра до 7 вечера мы и учились, и тренировались на площадке. В мыслях было только одно: как бы поскорее все закончить и найти себе профессиональное применение в баскетболе. Шанс остаться в США, конечно, был, и мне предлагали, но я получил выгодный контракт в Польше и уехал туда, о чем нисколько не жалею.

**— А что вас поразило в американцах?**

— Они сильно от нас отличаются — более общительные, свободные, раскрепощенные, очень любопытные. Но это так, мелочи. Больше всего меня поразило, какие большие деньги в США делаются на спорте. Это целая индустрия. Независимо от того, как команда будет играть, трибуны все равно будут забиты под завязку, а каждая игра — это грандиозное шоу. Потому что в раскрутку бренда клуба вкладывается порой даже больше, чем в покупку игроков. Но это сторицей окупается за счет продажи сувенирной продукции, рекламных контрактов и т.д.

**— Какой самый ценный совет в жизни вам дали родители?**

— Они всегда дают ценные советы. Но проблема в том, что мы их не всегда воспринимаем. И только когда что-то случается, сразу о них вспоминаешь. Все, чего достиг в жизни, я достиг благодаря родителям, за что им очень благодарен. Но с ними я больше советуюсь по личным делам. В спорте мне ценные советы дает мой самый первый тренер — Александр Михайлович Гуляев.

**Арина САНДОВИЧ.**
**Фото из личного архива А.КРИВОНОСА.**

КРЫМІНАЛ

## Ну і ну: у дзіцяці на вуліцы адабралі 4000 рублёў!

*Здарылася гэта ў Бабруйску сярод белага дня.*

Нецвярозы 36-гадовы мужчына падышоў да пяцікласніка на вуліцы Ульянаўскай. Ён штурхнуў дзіцяці і запатрабаваў аддаць ўсе грошы, якія былі. Хлопчык дастаў з кішэні 4000 рублёў...

*“Дома ён распавёў аб тым, што здарылася, бацькам, апісаўшы прыкметы крыўдзіцеля,* — распавядаюць у Магілёўскім УУС. — *Тыя адразу патэлефанавалі ў міліцыю. Зламысніка, які ўжо быў раней судзімы за рабаванне, па гарачых слядах затрымалі. Грошы патраціць ён так і не паспеў”.*

Нахабніка могуць пасадзіць на шэсць гадоў за рабаванне.

## Няўдалая рыбалка

*19-гадовы хлопец паехаў на рыбалку, а вярнуўся з пераломам сківіцы і носа...*

Інцыдэнт з мардабоем здарыўся з-за таго, што рыбакі не падзялілі... месца на беразе возера.

*“Хлопец з таварышамі прыехаў на возера, а месца, дзе яны пастаянна ловяць рыбу, ужо было занята,* — распавядаюць у Гродзенскім УУС. — *Завязалася сварка і адзін з рыбакоў, не знайшоўшы больш пераканаўчых аргументаў, ударыў пацярпелага хлопца кулаком у твар, ад чаго той страціў прытомнасць*”.

Высветлілася, што “баксёр” быў нецвярозы. У дачыненні да яго распачата крымінальная справа па артыкуле “Наўмыснае прычыненне менш цяжкага цялеснага пашкоджання”. Гора-рыбаку свецяць папраўчыя работы або абмежаванне волі да трох гадоў.

## Забіў бацьку кухонным нажом

*20-гадовы хлопец пасварыўся з бацькам падчас застолля і кінуўся на яго з нажом.*

Трагедыя здарылася ў вёсцы Леснікі Мсціслаўскага раёна. 52-гадовы мужчына загінуў. Паводле заключэння судова-медыцынскай экспертызы смерць наступіла ад масіўнай кровастраты.

Працверазеўшы, хлопец так і не змог успомніць, што здарылася...

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

## Пенсіянерка павісла на вышыні чацвёртага паверха

*Выратавальнікі знялі яе з кветкавага каркаса.*



Здарэнне адбылося ўчора ў Віцебску. Як 90-гадовая жанчына апынулася за акном сваёй аднапакаёвай кватэры, не паведамляецца. Супрацоўнікі МНС перадалі пенсіянерку ўрачам хуткай медыцынскай дапамогі.

**Вера ВІР.**

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# Загляни в себя поглубже

## *Олегу ФОМЧЕНКО — 80*

Фирменный знак писателя и журналиста Олега Фомченко — верность жизненной правде, прочная опора на реальный факт. Он не придумывает своих героев и сюжеты с порою неожиданными поворотами. Берет их из кладовой своей памяти, из повседневных наблюдений и встреч, осмысления всего, что встретилось на пути. Эта непридуманность и подкупает читателя.

Многим, вероятно, помнятся интересные, волнующие рассказы Олега Фомченко на страницах “Народной Воли”, а также вышедшие в свое время отдельными книгами повести и рассказы, юморески, публицистические статьи, такие как “Первая гроза”, “Деревья остаются зелеными”, “Звезды светят всем”, “Загляни в себя поглубже”, “В середине лета” и другие. Еще в далекие 60-е годы минувшего века он заявил о себе как о даровитом литераторе.



Родился Олег Семенович в Минске 25 июня 1932 года, мальчишкой пережил ужасы войны и послевоенные тяготы. И то, что запечатлелось в цепкой юной памяти и сердце, давало толчок к написанию произведений о том, чего нельзя забыть и что пребудет с нами навечно. Богатый жизненный опыт и профессионализм, приобретенный после окончания филфака БГУ в период журналистской работы в различных республиканских изданиях, особенно в “Колхозной правде” (затем — “Сельская газета”, ныне “Белорусская нива”), журнале “Вожык”, издательстве “Беларусь”, прибавляли ему, горожанину, знаний и впечатлений о жизни современного города и белорусской деревни, ее людях, проблемах. Он умеет писать о них взволнованно, психологически достоверно и глубоко осмысленно. За внешней простотой письма — сложность внутреннего мира героев, часто совершенно не приметных для окружающих, но сильных, цельных личностей с непростой, а то и трагической судьбой.

Вот уже полвека плодотворно трудится на литературной ниве человек, который умеет заглядывать в себя и которому в свое время давали рекомендацию для вступления в тогдашний Союз писателей БССР такие мэтры белорусской литературы, как Иван Пташников, Иван Науменко и другие старшие братья по перу. Сегодня, в пору щедрой творческой осени, Олегу Семеновичу еще рано подводить итоги. Он по-прежнему творит, ищет новое, вспоминает незабытое. Словом, радуется и тревожится всем, что преподносит жизнь, не выпускает пера из рук. Сейчас завершает работу над художественно-документальной книгой о родном Минске, его истории и сегодняшнем дне.

Сердечно поздравляем Олега Фомченко с весьма внушительной вехой жизни — 80-летним юбилеем! Желаем несокрушимого здоровья, неувядаемой душевной молодости и творческой энергии на долгие-долгие годы!

**С уважением —**

**редакция газеты “Народная Воля”.**

## *Олег ФОМЧЕНКО*

ЗАРИСОВКИ БЕЗ РИСОВКИ

# Шекспировские страсти

Перед входом или выходом — как для кого — в метро на минском вокзале почти всегда толчея. Особенно когда приходят пригородные электрички. На этот раз для пенсионера Евгения Ивановича было — перед “входом”. Люди с ведрами и сумками, с набитыми горбами-рюкзаками, с пышными пионами в руках так и рвались из электричек в метро. Несла штормовая волна и Евгения Ивановича.

И вдруг... На площадочке в туннель, перед ступеньками вниз или вверх — как для кого — пробка. Столкнулись два встречных людских потока. Заминку сотворили трое или четверо здоровенных мужиков, явно в подпитии: устроили бурную сцену встречи, не обращая внимания, что мешают движению. А может, и не устроили, а так вышло. Ведь в жизни все неожиданно.

Короче, они пожимали руки, обнимались, похлопывали друг друга по плечам. Громко, не стесняясь, в цветистых выражениях изъявляли свои мужские чувства. Ладно, все бы ничего, да вот... Людям-то надо идти вниз или вверх — как для кого, а тут... Назревает чуть ли не немиговская трагедия. Милиции поблизости, как бывает в таких случаях, нет. А народ — какой он в наши дни? Главное ему не лезть на рожон, как-нибудь обойдется...

Ну а Евгений Иванович — человек интеллигентный. Вот и говорит эдак вежливенько, но настойчиво веселым устроителям затора:

— Ну и шекспировские страсти! В сторонку бы отошли, а то людям с поклажей не пробраться.

Наверное, все бы и обошлось, если бы не эти самые “шекспировские страсти”. Один из весельчаков аж взъярился:

— Ты это что, гнида, оскорбляешь?! Какие с-страсти! Тьфу, и не выговоришь!

Евгений Иванович перед направленным на него пудовым кулаком сник, что-то по-интеллигентски зашамкал:

— Да я... Да вы... Не эдак поняли-уразумели... Понимаете, так говорят - “шекспировские страсти”... Это же великий драматург...

Ну и прочее, и прочее.

А разъяренный кулак все-таки опустился — сверху вниз, так как Евгений Иванович был куда ниже двухметрового верзилы. На счастье, удар лишь скользнул по плечу, но все же поклонник Шекспира аж присел на плиточное покрытие у ног бурно приветствовавших “своих” приятелей. А они, оскорбленные неким Шекспиром, не унимались. Неизвестно, чем бы все закончилось, если бы не появился наконец блюститель порядка: кто-то разыскал его. Он принялся выяснять, в чем дело, подытожил:

— В общем, граждане, разойдитесь, очистите проход. А вы... вы... — он показал на Евгения Ивановича, — пройдемте в отделение... Нельзя оскорблять людей.

— Так это же Шекспир, мировая литература, культура... — лепетал интеллигент.

— Вот видите, опять за свое! — загремел басом верзила, снова сжимая свой пудовик. — Опять оскорбляет!

— Не оскорбляйте людей, гражданин! — подал голос милиционер. — А еще приличного вида! Пройдемте в райотдел.

Цепкая рука ухватила Евгения Ивановича повыше правого локтя и потянула, растерянного и упирающегося, за собой...

Пластмассовое ведерко с помидорами кувыркнулось и вскоре превратилось под ногами спешащих людей в грязно-вязкую массу...

Не знаю, помянет ли когда-нибудь еще мой знакомый интеллигент Шекспира иль нет — время покажет. А оно то ли прошло, то ли еще не настало для классика мировой литературы...

О случае этом я поведал с согласия самого Евгения Ивановича.

## Свіслач ачысцяць пры дапамозе карпа і карася

*Не так даўно старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька даручыў камунальшчыкам заняцца ачысткай Свіслачы. Адна з першых ініцыятыў — запусціць у раку карпа і карася.*

Як паведамляе belta.by, ідэя належыць старшыні Мінскага гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Аляксандру Баравікову.** Паводле яго слоў, такое зарыбленне павысіць рэкрэацыйную прывабнасць ракі. Абыдзецца гэта ўсяго ў 50—60 мільёнаў рублёў. Усяго на ачыстку Свіслачы з гарадскога бюджэту выдзелена 20 мільярдаў рублёў. Баравікоў адзначыў, што гэтых грошай цалкам дастаткова.

А пасля таго як у галоўнай рацэ сталіцы з’явіцца рыба, гарадскія ўлады зоймуцца уборкай расліннасці і намываннем мелкаводдзя. Для гэтага трэба будзе купіць шматфункцыянальную самаходную ўстаноўку коштам каля 2,5 млрд бел. рублёў.

І яшчэ: паводле слоў Аляксандра Баравікова, індэкс забруджвання вады ў Свіслачы роўны 0,8—1, гэта значыць, што вада характарызуецца як чыстая або ўмоўна чыстая. Але зусім іншая справа, што яна ўвесь час зарастае багавіннем, з чым і трэба змагацца ў першую чаргу. Мэр Мінска прапанаваў для гэтага некалькі варыянтаў, адзін з якіх — павялічыць магутнасць помпаў, якія пракачваюць рачную ваду, каб яна не застойвалася. Другі варыянт меркаваў закупку спецыяльнай тэхнікі для рэгулярнага ачышчэння Свіслачы ад заraснікаў.

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл.
(017) 3286871.
Тэл./факс
рэкламнага
аддзела: (017)
3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.06.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28010 экз. Заказ №2665.**